БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

ЧЗ

18 жніўня 1994 г.
Чацвер
№ 90 (13807)
Кошт у розніцу 100 рублёў

Выдаецца з 1921 года


Малюе Віктар ДУБОВІК





Фотаэцюд Сяргея ІВАНОВА.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Афіцыйна

*Абяцаных Прэзідэнтам Беларусі ўказаў аб мерах па ўзмацненню кантролю за адчужэннем дзяржаўнай маёмасці і прыватызацыяй, а таксама аб заключэнні кантрактаў з кіраўнікамі дзяржпрадпрыемстваў можна чакаць у самы бліжэйшы час.*

Паводле звестак з кампетэнтных крыніц, праекты гэтых указаў ужо гатовы.

* * *

*Змяненні ва ўласны ўказ прыйшлося ўнесці Прэзідэнту рэспублікі Аляксандру Лукашэнку.*

Пасля дадатковага вывучэння карэкціроўцы быў падвергнуты ўказ "Аб стварэнні кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь", наконт якога разгарэліся гарачыя спрэчкі ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета рэспублікі.

* * *

*Аляксандр Лукашэнка накіраваў віншаванне калектыву рэспубліканскага піянерскага лагера "Зубраня" з нагоды яго 25-годдзя.*

У пасланні Прэзідэнт выказаў падзяку калектыву за добрасумленную працу.

### Урад абяцае індэксацыю

*Чарговае павышэнне цэн на малочныя і хлебабулачныя вырабы, што закранула абсалютна ўсіх жыхароў рэспублікі, дзяржава паспрабуе змякчыць. Некаторым катэгорыям грамадзян да 20 жніўня павінна быць выплачана кампенсацыя за ўдаражанне гэтых прадуктаў харчавання. Як паведаміў віцэ-прэм'ер Уладзімір Гаркун, без увагі ўрада не застануцца і ўсе астатнія грамадзяне рэспублікі. Іх даходы будуць праіндэксаваны за жнівень у адпаведнасці з дзеючым у Беларусі законам.*

Хоць памеры гэтых выплат яшчэ вызначаюцца, мяркуецца, што яны будуць значнымі.

### Прэміі для журналістаў

*Іх атрымаюць пераможцы творчага конкурсу за лепшае асвятленне ў сродках масавай інфармацыі пытанняў эканамічнага і сацыяльнага развіцця прадпрыемстваў хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці, якія ўваходзяць у канцэрн "Белхімнафтапрам". Арганізатарамі гэтага штогадовага конкурсу выступілі канцэрн "Белхімнафтапрам", Міністэрства культуры і друку, Дзяржтэлерадыё, Саюз журналістаў Рэспублікі Беларусь.*

Як адзначыў старшыня журы Іван Карэнда, у прадстаўленых матэрыялах павінны быць адлюстраваны пытанні ходу эканамічнай рэформы на прадпрыемствах галіны, пошук шляхоў выхаду з крызісу і забеспячэнне яе ўстойлівай работы.

На конкурс прымаюцца матэрыялы на беларускай і рускай мовах, надрукаваныя ў рэспубліканскім і мясцовым перыядычным друку і перададзеныя ў тэлерадыёэфіры. Апошні дзень высылкі конкурсных матэрыялаў — 10 мая 1995 года.

Для пераможцаў устаноўлены дзве першыя прэміі — па 25 мінімальных зарплат (або прыз), тры другія — па 15 мінімальных зарплат, тры трэція — па 10 мінімальных зарплат. Пераможцам конкурсу будуць уручаны таксама ганаровыя дыпломы.

БЕЛІНФАРМ.

### Маршрут: Віцебшчына–замежжа

*Апошнім часам дзеці з Віцебскай вобласці ўсё часцей ездзяць у госці за мяжу. Толькі сёлета ўжо трыццаць шэсць дзяцей пабывалі ў Галандыі і Германіі.*

Неўзабаве дэлегацыя з ФРГ на чале з пастарам Клаўсам Эндэрсам прыязджае на Віцебшчыну. Немцаў чакаюць Браслаўскія азёры, а таксама памятныя мясціны ў Віцебску.

Уладзімір МІХНО.

### Абмяняемся...чыгункамі

*У Міністэрстве замежных спраў рэспублікі адбыліся перамовы паміж дэлегацыямі Беларусі і Літвы па пытанні ўзаемнай перадачы чыгуначных дарожных участкаў, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, але эксплуатуюцца літоўскім бокам, і наадварот.*

Паводле інфармацыі, атрыманай у МЗС Рэспублікі Беларусь, абодва бакі задаволены ходам перамоў. Станіслаў Агурцоў, намеснік міністра замежных спраў Беларусі, паведаміў, што перадача чыгуначных дарожных участкаў будзе ажыццёўлена ў самыя кароткія тэрміны. Хутчэй за ўсё гэта пытанне вырашыцца да 1 верасня.

Святлана КУЛІКОВА.

### Лепшы хлеб – у Ялізава

*Так па праву лічаць жыхары невялікага пасёлка, што ў Асіповіцкім раёне. Па прадукцыю мясцовай хлебапякарні прыязджаюць нават з Асіповіч, Бабруйска, Клічава. Выпякаюць мясцовыя майстры хлеб амаль па-дамашняму, па ўласнаму рэцэпту.*

Нядаўна з-за перабояў з сыравінай пякарня на некалькі дзён спынілася. Хлеб пачалі завозіць з Асіповіч, дык жыхары Ялізава адмовіліся ад яго. Дзякуй Богу, пякарня доўга не прастойвала.

Іван СЦЯПУРА.

### Адраджэнне не толькі на паперы

*Выканкам Лельчыцкага райсавета народных дэпутатаў зацвердзіў праграму па адраджэнню і развіццю народнай творчасці.*

Прадугледжваецца стварэнне новых фальклорных калектываў, цэнтра народных рамёстваў, збор мясцовых узораў вусна-паэтычнай творчасці, правядзенне традыцыйных свят і абрадаў, а таксама семінараў-практыкумаў па прапагандзе роднай мовы і твораў беларускіх пісьменнікаў.

Алесь ЛАРЫЁНАЎ.

### Хрыстос "прызямліцца" ў Маладзечна

*Новую Свята-Успенскую царкву вырашана пабудаваць у Маладзечна.*

Сёння на месцы будучага праваслаўнага храма ўзводзіцца памятны знак з крыжам, каля якога 28 жніўня пройдзе ўрачыстая літургія. Мяркуецца, што ўдзел у ёй прыме яго праасвяшчэнства Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

БЕЛІНФАРМ.

### Летнік для паліглотаў

*Летнік "Вясёлка", што размясціўся на рацэ Пціч, нядаўна атрымаў яшчэ адну назву — "Славянская вёска". Справа ў тым, што разам з іншымі мерапрыемствамі накшталт карнавалаў, конкурсаў міс і містэраў і вечарын бардаўскай песні тут штодня праводзяцца незвычайныя заняткі. Студэнты-філолагі з Чэхіі, Славакіі, Славеніі, Македоніі і Літвы распавядаюць пра сваю культуру, вучаць нацыянальным танцам і знаёмяць нашых школьнікаў з роднай мовай — кожны са сваёй.*

Нават калі паліглотаў з дзяцей і падлеткаў і не атрымаецца, час, праведзены ў летніку, запомніцца ім абавязкова. "Славянская вёска" плануе і надалей збіраць пад гасціннымі дахамі дамкоў "Вясёлкі" прадстаўнікоў розных славянскіх народаў.

Ірына ЗАВАДСКАЯ.

### Пятнаццацігадоваму – 15 мільёнаў

*Тысячы аршанцаў набываюць білеты латарэі "Спрынт". А пашанцавала пятнаццацігадоваму М., які выйграў 15 мільёнаў рублёў.*

У сувязі з тым, што юнаку яшчэ няма 16 гадоў, гэтую суму атрымаюць яго бацькі.

Ісак КОГАН.

### Курсы валют на 17 жніўня:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 26100 | 26950 | 16530 | 17300 |
| "Прыор" | 26200 | 26700 | 16800 | 17150 |
| "Пошук" | 26000 | 26800 | 16100 | 16750 |

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## Нас чакае дэнамінацыя

### Што гэта такое?

☐ Эльвіра МЫСЛІЦКАЯ

*Як стала вядома, па рашэнню Кабінета міністраў і праўлення Нацыянальнага банка разліковыя білеты, якія называюць ва ўжытку "зайчыкамі" ды "зубрамі", будуць 20 жніўня прыведзены ў адпаведнасць з іх наміналамі. Дэнамінацыя прадугледжвае пералік у бок змяншэння ў 10 разоў актываў і пасіваў, усіх відаў цэн і тарыфаў, а таксама паступленняў і прыбыткаў насельніцтва.*

На прэс-канферэнцыі, якая была прысвечана гэтай тэме, першы намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Мікалай Кузьміч неаднаразова падкрэсліваў, што гэта акцыя праводзіцца з мэтай спрашчэння разлікаў. Ён напомніў прысутным гісторыю з'яўлення ў рэспубліцы беларускіх разліковых білетаў, якія адыгралі сваю станоўчую ролю ў выніку набыцця Беларуссю суверэнітэту і ўвядзення Расіяй нацыянальнай валюты. Паводле слоў Мікалая Андрэевіча, пры адпаведным кантролі праводзімая дэнамінацыя не закране інтарэсаў грамадзян рэспублікі, а цэны, уключаючы прыватны гандаль і паслугі, будуць таксама прыведзены ў адпаведнасць. Апошнія, падпарадкоўваючыся законам рынку, не дазволяць сабе пакінуць цэны ранейшымі, хоць на базарах яны і могуць нейкі час заставацца больш высокімі ў параўнанні з дзяржаўнымі. Акругленне цэн будзе праводзіцца наступным чынам: да пяці капеек — у бок змяншэння, а звыш — у бок павелічэння да адзінкі.

Мікалай Кузьміч заверыў, што маючая адбыцца дэнамінацыя не адаб'ецца і на курсе беларускага рубля, паколькі на яго аказваюць уплыў зусім іншыя фактары. Не вырашае яна і праблемы наяўнасці. Для гэтага патрабуецца як мага больш тавараў і паслуг. А між тым на руках у мінчан знаходзіцца 525 млрд. наяўных рублёў, у жыхароў Мінскай вобласці — 600 млрд. рублёў. Гаворачы пра аб'яднанне грашовых сістэм, спадар Кузьміч паведаміў аб тым, што ён не можа сцвярджаць, што абмен валют будзе адбывацца менавіта 1 да 1. Усё павінна быць агаворана ў кастрычніку бягучага года.

Першы намеснік галоўнага банкіра адзначыў складанасць работы, што выкліча працэс дэнамінацыі, асабліва для суб'ектаў гаспадарання, якія складаюць балансы дзейнасці раз у месяц. Таму для іх Міністэрства фінансаў і Нацыянальны банк арганізуюць семінары па вывучэнню метадалогіі дэнамінацыі, якія дапамогуць паспяхова справіцца з гэтай работай.

■

## Надзвычайная праграма – у надзвычайных умовах

☐ Святлана КУЛІКОВА, "ЧЗ"

*На традыцыйнай прэс-канферэнцыі, што адбылася на пачатку тыдня ў кабінеце міністраў Рэспублікі Беларусь, прагучала: да канца гэтага месяца будзе завершана падрыхтоўка праграмы выхаду рэспублікі з крызісу.*

Праграма надзвычайных мер разлічана на канец гэтага і пачатак наступнага года. Яна складзецца з чатырох важнейшых блокаў, якія прадугледжваюць канкрэтныя крокі ўрада ў галіне рэфармавання эканомікі, павышэння адказнасці службовых асоб, стабілізацыі грашова-крэдытнай сістэмы, зніжэння інфляцыі, сацыяльнай абароны грамадзян. У распрацоўцы праграмы ўдзельнічаюць члены ўрада, вядомыя вучоныя, спецыялісты, практыкі.

Прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір паведаміў, што на мінулым тыдні канчаткова завяршылася фарміраванне кабінета міністраў. Функцыі ранейшых міністэрстваў і ведамстваў, якія не ўвайшлі ў склад кабінета, будуць выконваць камітэты, што ўвойдуць на правах юрыдычных асоб у дзеючыя міністэрствы.

Вышэйшай выканаўчай уладай выпрацавана жорсткая пазіцыя ў адносінах да спажыўцоў энергарэсурсаў. За іх неплацяжы да прадпрыемстваў будуць прымяняцца строгія меры: ад адключэння электраэнергіі да аб'яўлення іх банкрутамі.

Міхаіл Чыгір праінфармаваў журналістаў, што прынята рашэнне правесці як мага хутчэй нараду са старшынямі гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў. Арыенціроўка прэзідэнта адносна мясцовых органаў улады наступная: ўзаемаадносіны вышэйшай і мясцовых выканаўчых улад будуць залежаць ад вынікаў работы апошніх на месцах.

Віцэ-прэм'еры Віктар Ганчар і Сяргей Лінг расказалі аб мерах па сацыяльнай абароне насельніцтва ў сувязі з павышэннем цэн на хлеб і малочныя прадукты. Было адзначана, што пакуль сітуацыя з выплатай кампенсацый не выклікае трывогі. Дзякуючы напружанай рабоце на месцах, 15 жніўня пачаліся кампенсацыйныя выплаты ў Мінску і Мінскай вобласці. З 16 жніўня іх атрымліваюць указаныя ў пастанове катэгорыі грамадзян і ў іншых рэгіёнах рэспублікі. Праўда, некаторую трывогу выклікае адсутнасць у шэрагу раёнаў наяўнасці. У сувязі з гэтым ёсць дагаворанасць з Нацыянальным банкам аб яе "падмацаванні". Увогуле Міністэрства фінансаў пералічыла на кампенсацыі 355 мільярдаў рублёў. Больш як 17 мільярдаў атрымаюць студэнты і навучэнцы сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Прычым, улічваючы ўзровень інфляцыі, студэнты змогуць атрымаць кампенсацыю ў час канікул, не чакаючы пачатку навучальнага года. Сацыяльнай падтрымкай дзяржавы, не лічачы дзяцей, будуць ахоплены 2,5 мільёна дарослых грамадзян рэспублікі.

Міхаіл Мясніковіч расказаў аб падрыхтоўцы прамысловасці да работы ў зімовых умовах. Ён падкрэсліў: урад робіць усё, каб закупіць у неабходнай колькасці энергарэсурсы. Таму прэзідэнт выдаў указ, у якім гаворыцца, што за непагашэнне запазычанасцей прадпрыемствы будуць "адключаны" ад энергазабеспячэння. Міхаіл Мясніковіч адзначыў, што негатыўная сітуацыя стварылася ў дзяржгандлі: паліцы магазінаў пустыя, не падтрымліваецца неабходны асартыментны мінімум. Урад мае намер узяць сітуацыю ў гандлі пад жорсткі кантроль.

Па стану на 15 жніўня больш як 60 працэнтаў збожжавых на тэрыторыі рэспублікі ўбрана, дзяржаве прададзена 800 тысяч тон збожжа. І ўсё ж сітуацыя на вёсцы дастаткова складаная. Аб гэтым гаварыў Уладзімір Гаркун. У выніку засухі недабор складзе 1,5 мільёна тон збожжа. Урад лічыць неабходным прыняць аператыўныя меры, каб зацікавіць сялян у вытворчасці сельгаспрадукцыі. Нармальна плаціць за рэалізаванае збожжа і выйсці на ўзровень сусветных цэн. Робіцца ўсё неабходнае, каб не дапусціць зніжэння пагалоўя ў прыватным і грамадскім сектары. У вёсцы пачалася рэалізацыя камбікармоў.

Паведамлялася таксама, што ў выніках перамоў з амерыканцамі атрымана згода нашых заакіянскіх партнёраў аказаць беларусам харчовую дапамогу на суму недабору збожжавых у сувязі з неспрыяльнымі кліматычнымі ўмовамі.

■

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

ЧЗ

Дзяжурныя па выпуску перакладчык Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Павел СІМАНАЎ.

### "Уорлднэт"

#### Як пасварыліся Іран з Аргенцінай

*Іранскі пасол у Аргенціне адкліканы на радзіму для правядзення кансультацый у сувязі з тым, што аргенцінская паліцыя абвінавачвае шэраг іранскіх дыпламатаў у дачыненні да выбуху, што адбыўся ў ізраільскіх установах у Буэнас-Айрэсе і ў час якога загінула больш як 100 чалавек.*

Пракурор Буэнас-Айрэса ў сувязі з гэтым ужо выпісаў прадпісанне на затрыманне чатырох іранскіх дыпламатаў для допыту. Іран абвінавачвае Аргенціну ў правядзенні антыіранскай кампаніі.

### "Еўраньюс"

#### Парламенцкія выбары... з дапамогай дубінак

*праходзяць на Шры-Ланцы.*

На востраў дыслацыравана каля 50 тысяч паліцэйскіх, каб прадухіліць тэракты з боку тамільскіх экстрэмістаў. Чакаецца, што адразу пасля правядзення выбараў у краіне будзе ўведзена каменданцкая гадзіна.

#### Японцы просяць прабачэння...

*Прэм'ер-міністр Японіі папрасіў прабачэння ў краін ціхаакіянскага рэгіёна за пакуты, якія прычынілі японскія акупацыйныя войскі ў час другой сусветнай вайны.*

У прысутнасці імператарскай сям'і ён заявіў, што японскае грамадства зробіць усё магчымае, каб такое больш ніколі не паўтарылася. Гэта адбылося ў час правядзення мерапрыемстваў, прысвечаных капітуляцыі Японіі ў другой сусветнай вайне.

#### "Пакараць нельга памілаваць"

*Працягваецца суд па абвінавачванню лідэра нігерыйскай апазіцыі ў дзяржаўнай здрадзе.*

Чакаецца, што на наступным пасяджэнні суда ён будзе канчаткова апраўданы ў выніку перамоў лідэраў нігерыйскага нацыянальнага кангрэса з урадам. Сам жа падсудны скептычна аднёсся да аптымізму газетчыкаў у адносінах да свайго вызвалення.

### "Суперчэннэл"

#### Студэнты за кратамі

*У Паўднёвай Карэі арыштавана больш як тысяча студэнтаў.*

Гэта адбылося ў час іх сутычкі з уладамі.

#### Канец "Карласа-шакала"

*Судан выдаў даўно адшукваемага Інтэрполам і французскай паліцыяй тэрарыста Раміраса, вядомага пад мянушкай "Карлас-шакал".*

На сумленні злачынца — 80 ахвяр, загінуўшых у час захопаў заложнікаў, выбухаў і заказных палітычных забойстваў. ЗША выказалі задавальненне гэтым крокам Судана.

### "TV-5"

#### Дзядуля Рышар

*Споўнілася 60 гадоў непадражальнаму французскаму камедыйнаму акцёру П'еру Рышару.*

У адрозненне ад сваіх герояў сам П'ер у жыцці вельмі спакойны чалавек, шлюб якога аказаўся шчаслівым (дарэчы, Рышар ужо дзядуля). Ён ніколі не ўдзельнічаў у розных скандалах, характэрных для кінаэліты.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## ГАРЧЫЧНІК

### ФРАЗЫ

- Ведаў нявесту, як пяць пальцаў, аднак, не здагадваўся, што ўсе яны ўказальныя.
- Калі жанчыну ўвесь час насіць на руках, можна зэканоміць на яе абутку і купіць бочку піва.
- Не крыўдуйце на надвор'е. Яно ж не знаёма з нашымі прагнозамі.
- З калідора даносіўся аглушальны шэпт галоснасці.
- Перастрахоўшчыкі гатовы ўзгадніць нават дату свайго нараджэння.
- Цярпенню можна зайздросціць да таго часу, пакуль яно не лопне.
- Наламаў дроў – не забудзь іх скласці.

**Алесь БЯРЖЫНСКІ.**



Сцяпан АЛЕЙНІК (Украіна)

## Экскурсія на кінафабрыку

Лепш бы мяне не вадзілі на тую экскурсію. Дагэтуль шкадую, што пайшоў... Разам з усім класам уваходзіў, помню, у браму кінафабрыкі, нібы ў нейкі храм. Гэта ж адусюль кожны дзень цягнікамі і самалётамі спяшаюцца майстры кіно, каб зняць усё, што робіцца на свеце, і нам паказаць. Вось і нядаўна я глядзеў фільм і так перажываў за людзей, што ў бяду трапілі, аж заплакаў...

Амаль гадзіну чакалі пачатку экскурсіі. Нарэшце выйшаў нейкі дзядзька і сказаў:

— Вось-вось павінны пачацца здымкі найбольш хвалюючых кадраў новага фільма. Думаю, што гэта зробіць на вас ашаламляльнае ўражанне. А там, — кажа, — пачакайце яшчэ крыху...

Блукаючы па двары, заўважылі мы, што ў адным з куточкаў парку цесляры змайстравалі нейкі будан з фанеры. Уставілі туды "вокны", пафарбавалі іх бронзаю...

— Што гэта будзе? — пытаем.

Адзін з майстроў усміхнуўся:

— Палац княгіні канчаем, засталося яшчэ пярэднюю частку даху нацягнуць. Вось з гэтых дзвярэй выйдзе яна для здымак! — І, пагладзіўшы рукою верхні касяк, майстар гукнуў аднаму работніку: — Федзя! Вазьмі малаток і пазабівай вось тут цвікі, а то княгіня бакі паабдзірае!..

У гэты момант нас паклікала настаўніца, і мы паспяшаліся за ёю на зялёны пляц глядзець здымкі найбольш хвалюючых кадраў.

З бакоў і спераду ўжо стаялі кінаапаратары. Камандаваў усім чубаты і мітуслівы рэжысёр.

— Вы гатовы? — уладарна запытаў артыста, які трымаў у руках даўжэзнае кап'ё.

— Гатовы.

Рэжысёр падняў руку і крыкнуў у той бок, дзе была наспех зляплена нейкая паветка з чароту:

— Пускайце каня! Ды мацней прывяжыце пудзіла ў сядле.

— Ёсць прывязаць! — даляцела адтуль.

Калі напханае саломаю і адзетае ў шынель пудзіла прыладзілі, два здаравенныя урвісы з усяе сілы сцебанулі бізунамі каня і пагналіся следам за ім, каб завярнуць яго туды, дзе стракаталі апараты, дзе, перавесіўшы піку, ужо прыцэльваўся "бандыт", каб кальнуць пудзіла...

— Адставіць! — закрычаў рэжысёр. — Вы што, не бачыце, што коннік скрывіўся?! Уваткніце яму палку ў фігуру, каб роўна трымаўся!..

Праз хвілін дзесяць зноў свіснулі бізуны. Падляцеў напалоханы конь, і "бандыт" садануў кап'ём пудзіла так, што яно злящела на траву. Нехта адбіў яго далей нагою, а на тое самае месца ўпаў у такім жа самым шынялі жывы герой.

— Больш курчыцеся! Вы ж праколаты кап'ём! — настаўляў кіраўнік.

Артыст курчыўся, крывіўся, дрыгаў нагамі.

— Яшчэ больш! Яшчэ! Так, каб глядач паверыў, замёр і заплакаў у зале!..

Сталыя дзядзькі рабілі гэта вельмі сур'ёзна, а нам, хлапчукам, было смешна.

Потым паранены герой павінен быў паўзці на высокую гару. Але дзе ж гара? І тут мы ўбачылі, як у кіно не Магамет ідзе да гары, а гара ідзе да Магамета. Да высокай акацыі паставілі драбіны. Узлез туды апаратар, прыцэліўся ўніз і...

— Цяпер карабкайцеся, рачкуйце! — загадаў рэжысёр.

Артыст чапляўся за роўную зямлю, поўз...

— Мацней хэкайце! Хэкайце мацней і аглядайцеся, ці вас даганяюць.

...Яшчэ раз паўтараю: лепш бы я не хадзіў на тую экскурсію! Дасюль я глядзеў кіно з поўным даверам, успрымаў усё шчыра і непасрэдна. А цяпер, думаў сабе, абавязкова пайду на гэты фільм, і калі гледачы будуць уздыхаць ці, можа, і плакаць, я пасмейвацца буду...

Пасля здымак вадзілі нас па цэхах, паказвалі многа ўсялякай бутафорыі, усялякія фанерныя і папяровыя макеты.

І скажу вам праўду: выйшаў я з брамы кінафабрыкі зусім расчараваны. З таго часу я пачаў больш дакументальныя фільмы любіць.

На другі дзень пісалі мы ў класе пісьмовую работу "Мае ўражанні ад экскурсіі". Усе сядзелі надзіва ціха, засяроджаныя. І раптам Валодзька Лемешаў крыкнуў:

— Мацней хэкайце! Хэкайце мацней!... — І клас зарагатаў.

Адным словам, хадзіць лепш у кіно!

**Пераклаў М.БАЗАРЭВІЧ.**

### СМЯШЫНКІ



— Даражэнькі сынок! Калі хочаш быць шчаслівым— сцеражыся папоек, карт і распусты.
— Добра, татачка! Але ж у школе вучылі, што трэба браць прыклад з бацькоў...

* * *

— Чаму ты, хлопча, нідзе не працуеш?
— Дык я ж яшчэ малы!
— А чаму на табе такія кароткія порткі?
— Дык гэта ж бацькавы...

* * *

— Як цябе завуць?
— А як хто хоча: жонка — распуснікам, бацька — гультаём, суддзя — зладзеем, толькі адзін адвакат хваліць...

**А.МІХАСЁНАК.**

Васіль ЖУКОВІЧ

### Сучасныя прыпеўкі

Мы прыехалі на рынак;
фантастычны ўвесь тавар:
транты, ківі, мандарыны,
ёсць на продаж і даляр.
Хто з таварам, той з наварам.
Маеш грошы — купіш.
Як ні грошай, ні тавару —
атрымаеш кукіш.

*

Злодзей абяцаў выгоды —
вушы ўсе развесілі;
як на карак сеў народу,
мы насы павесілі.

*

Выступалі мы на сцэне,
лепшы дзень прарочылі,
а сышлі са сцэны —цэны
ўдвая падскочылі.

### "Ініцыятар"

Магчыма, не здзіўлю нікога,
калі адкрыта я скажу:
у нас "ініцыятараў" замнога;
адзін з іх — рангу абласнога —
нядаўна з'ездзіў за мяжу.

Вось пабываўшы
ў старане чужой,
начальнік аддае
свае загады —
знішчаць ля ўсіх дарог
прысады, —
маўляў, няма
прысадаў за мяжой,
там да асфальту —
збажына сцяной...
і што б вы думалі?
Нізы — старацца рады!
У ход пусцілі пілы, тапары,
бульдозеры і трактары,
на дзікую "вайну"
людзей нагналі, —
кусты і дрэвы ўздоўж
дарог каналі.
Дроў самадурства
наламала многа...
Зіма бяду спыніла,
дзякуй Богу.

Ну, а зімой пустэльнаю дарогай
"ініцыятар" ехаў на бліны,
засеў у гурбах снегу і заўзята

дарожнікаў, завею
крыў ён матам,
адно не зразумеў —
сваёй віны.

Дадам, чытач шаноўны мой:
за той, дзе дурань быў,
мяжой,
зусім не выпадае снег зімой...

### Праблема "зелля"

Прыехала дачка дахаты.
— Жывеш як, тата?

— І не пытайся, справа дрэнь:
пракорпаўся цалюткі дзень, —

вось... карамелькі распранаў,
варыць яшчэ й не пачынаў...

Без зелля ж гэтага ў калгасе
прасіць каня і не старайся.

А ў краме, ведаеш сама,
"законнага" даўно няма.

Няма і цукру... Ёсць цукеркі,
загорнутыя ўсе ў паперкі.

Дык прывязі
ўжо мне, дачушачка,
цукерак голенькіх —
падушачак...

### Звычайная гісторыя

Сказаў на сходзе Іваноў
пра шэфа-казнакрада —
падпаў смяльчак за колькі
слоў
пад скарачэнне штату.

Прафкам, парткам прасіў бядак,
каб памаглі, —
пусты занятак,
бо ўсе яны пры шэфе — як
даведкі без пячатак...

А ў шэфа — сувязяў клубок.
А ў шэфа — сейф харошы,
а ў ім пячатка — што станок,
які чаканіць грошы.

У суд падаўся Іваноў,
а там суддзя прадажны,
тым шэфам куплены даўно,
як вінцік дужа важны...

І зразумеў бядак, што ён
такі неасцярожны.
І нёс у краму ён талон
з чырвончыкам апошнім.

### Маленькі начальнік...

Начальнік маленькі.
Вялікі размах.
Начальнік дурненькі,
а база ў руках.
Заўсёды дурненькі
да вашых паслуг:
чыноўнік маленькі —
вялікаму друг.
У свеце даверу
не крыўдзяць сваіх:
сто метраў кватэра
ў яго — на траіх.
Яго бачыць рады
як там, так і тут.
Убілася "чада"
яго
ў інстытут.
Вядома, па блату,
а як жа яшчэ!
Ад ціхага д'ябла
ніхто не ўцячэ.
Пуцёвачку ў Сочы,
"Жыгуль" без чаргі
бяры, калі хочаш,
ды помні
даўгі!..

### Кузьма і Клім

Жывуць не ў казцы
ўнук і дзед,
яны — мае суседзі.
Скрозь пехатой Кузьма ідзе,
Клім на машыне едзе.

Кузьма капусту і часнок,
грыбочкі ўжывае;
як піць захоча ён — квасок
са смакам папівае.

А Клім біфштэкс і антрыкот
зап'е піўком, смятанкай
і спіць, нібы лянівы кот,
ад вечара да ранку.

Кузьма на ўсім даўгім вяку
не знаў ніякіх лекаў.
Дзядок з "маржамі" —
на раку,
а ўнучак — у аптэку...




■ Шампанскае і лікёра–гарэлачныя вырабы імпартнай вытворчасці;
■ цыгарэты "WINNS" і "LASER" вытворчасці Іспаніі па ліцэнзіі ЗША;
■ жаночы абутак з натуральнай скуры вытворчасці Італіі
*ў шырокім асартыменце.*
*Наш адрас: вул.Сурганава, 21–42.*
*Тэл. (0172) 68–37–67, 68–37–91. Тэл/факс (0172) 66–84–48.*


### ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.



Як і некалі, гудуць над Свіслаччу званы, спрадвечны іх голас льецца над Мінскам, адбіваючыся звонкім рэхам і ў кожным каменьчыку Верхняга горада, і ў кожнай цаглінцы сучасных гмахаў-навабудоўляў.

Горды і самотны перазвон гучыць напамінам пра існае, пра тое, што "аз есмь". І пра карані нашыя, і пра месца на зямлі, імя якой — Беларусь!

**Фота БЕЛІНФАРМА.**

## КІНААФІША МІНСКА

### 18 жніўня

**"МАСКВА":** "Луна-парк"*** – 17.40. "Вар'яты ў Беверлі-Хілз" – 14.00, 15.50, 19.40, 21.30. Інфармацыйна-музычная праграма – 22.00.

**"КАСТРЫЧНІК":** "Пацукі, або Начная мафія" – 14.30, 17.40. "Вар'яты ў Беверлі-Хілз" – 16.00, 19.10, 21.00. "Макс-шоу" – 21.30.

**"АЎРОРА":** "Тысячагоддзе" (д) – 13.30. "Далёкая краіна" (2 с.) – 14.00, 20.40. "Недатыкальныя"*** – 16.30, 18.40. "Прыватны курорт"** – 15.30, 19.10. "Шэльма ў чорным"*** – 17.20, 21.00.

**"БЯРЭСЦЕ":** "Далёкая краіна" (2 с.) – 13.00, 17.00. "Бай-бай, бэбі"*** – 15.30. "Жыкіны мемуары"*** – 12.00, 16.00. "Горкі месяц" (2 с.)*** – 13.30, 17.30. Інфармацыйна-пацяшальная праграма – 20.30.

**"ВІЛЬНЮС":** "Далёкая краіна" (2 с.) – 16.10, 19.45. "Шэльма ў чорным"*** – 11.40, 14.30, 22.00 (н). "Караван смерці" – 13.20, 18.30.

**"ДРУЖБА":** "Глушыцель"** – 14.00, 18.30. "Кат з Кабабланкі" – 15.30, 20.00. "Народжаны забіваць"**** – 17.00, 21.30.

**"ПАРТЫЗАН":** "Смяротны заклад"**** – 15.40, 19.00, 20.40. "Фенікс-воін, ці Вайна Амазонак"*** – 14.00 (л), 17.20.

**"ПЕРАМОГА":** "Бай-бай, бэбі"*** – 13.00, 14.40, 16.20. "Далёкая краіна" (2 с.) – 18.00, 20.20.

**"САЛЮТ":** "Смяротны заклад"*** – 12.00, 15.20, 18.40, 22.00 (н). "Ноч выючага звера"** – 13.40, 17.00, 20.20.

**"СУЧАСНІК":** "Я абяцала, я пайду" – 14.30 (л). "Шалёныя ночы Клеапатры"**** – 16.00, 17.40, 19.20, 21.00.

**"БЕЛАРУСЬ":** "Прынц з Нью-Йорка" – 10.40, 14.10, 18.00, 21.30. "Запрашаем у паўналецце" – 10.30, 14.00, 17.20, 21.10. "Універсальны салдат" – 12.10, 15.40. "Самаволка"** – 12.20, 19.40. "На грэбені хвалі" – 15.50, 19.00.

**"КІЕЎ":** "Я аб'яўляю вам вайну" – 15.00. "Парыжскія свавольніцы"*** – 16.40, 18.20. "Калігула" (2 с.)**** – 20.00.

**"КАМСАМОЛЕЦ":** "Галёшы шчасця" (д) – 10.30. "Пятая малпа" – 13.30, 18.10. "Народжаны забіваць"*** – 12.00, 15.10, 16.40, 19.50, 21.20. "Брудная бялізна" – 15.00, 16.30, 20.10, 21.30. Зала індыйскага фільма: "Маюры" (2 с.) – 18.00.

**"МІР":** "Народжаны забіваць"*** – 14.00, 18.00, 20.00. "Дэтэктыў Кід" – 11.00, 15.00, 17.00. "Начны клуб"*** – 13.00, 19.00, 20.40. "Жыкіна дынастыя"**** – 12.00, 16.00. "Відэазала: "Прамыя ўлікі"**** – 15.30, 17.30, 19.30.

**"ПІЯНЕР":** "Варвара-краса, доўгая каса" (д) – 10.30. "Сакрэтны ўказ імператара" (д) – 13.40. "Прынц з Нью-Йорка" – 12.00, 17.10, 20.40. "Па краі бездані" – 15.20, 18.50.

**"РАКЕТА":** "Кібарг-паліцэйскі"*** – 16.10, 19.40. "Небяспечная гульня"**** – 18.00, 21.20.

**"РАДЗІМА":** "Кібарг-паліцэйскі"** – 14.00, 17.20, 20.40. "Прынц з Нью-Йорка" – 15.40, 19.00. Відэазала: "Робатэх-3" – 16.00; "Мяшкі для трупаў" – 18.00; "Браты па зброі" – 20.00. Працуе відэабар з 14.00 да 23.00.

**"ЗМЕНА":** "Кібарг-паліцэйскі"** – 15.00, 18.40. "Інтэрпол" – 17.00, 20.20.

**"ЦЭНТРАЛЬНЫ":** "Народжаны забіваць"**** – 13.10, 16.20, 19.30. "Тыдзень старшакласнікаў"** – 17.50, 21.00. "Начныя ястрабы"*** – 11.30, 14.40.

**"ЭЛЕКТРОН":** Мультфільмы (д) – 11.10. "Робат-паліцэйскі-2" – 14.00, 16.00, 18.00, 20.00. "Прынц з Нью-Йорка" – 13.20, 16.40, 18.20, 20.10. "Твая воля, Божа!" – 15.00.

**"АВАНГАРД":** "Іспанская ружа"**** – 17.00, 19.00.

**"ЗНАМЯ":** "Легенда пра дыназаўра-2" – 16.00, "Іспанская ружа"**** – 20.00.

**"УДАРНІК":** Мультфільмы (д) – 14.00. "Тэрмінатар" – 15.30, 19.00. "Іспанская ружа"**** – 17.20.

## ХАТНІ ЭКРАН

### ■ 18, чацвер

**Беларускае тэлебачанне**
8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. Надвор'е.
8.30. Пяць хвілін на жарты.
8.35. Фільм-канцэрт.
◆9.05. "Маё каханне, мой смутак".
10.05. Міжнародныя спаборніцтвы па канкуру. 1-ы этап. Слуцкі раён.
10.50. "Граф Люксембруг". Фільм-аперэта.
13.05. "Дзе яно, каралеўства Лябедзія?", "Мара". Д/ф.
* 14.25. "Кошчын дом", "Акаіро", "Дзядулева дудачка".
◆15.10. "Выбар". 1-я і 2-я серыі.
17.30. Навіны.
17.40. Фільм-канцэрт.
18.10. Абласныя навіны (Гродна).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Зачытайце маё пісьмо...
19.05. Гаспадар.
19.40. Фільм-канцэрт.
20.20. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
◆21.35. "Маё каханне, мой смутак".
22.35. Пад купалам Сусвету.
22.45. НІКа.
23.00. "Крок". Студыя "Формула".
0.20. Надвор'е.

**Канал "Астанкіна"**
7.00, 10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.20. Навіны.
8.00. Агляд рынку нерухомасці.
* 8.15. "Навaселле ў браткі Труса".
◆8.40. "Дзікая ружа".
9.05. "Жыццё заапаркаў" (ЗША).
9.45. Прадпрымальнік.
15.25. "Вайна гобатаў".
* 15.50. Мульцітролія.
16.05. ...Да 16 і старэйшым.
16.40. Планета. Пані ўласнасць.
17.25. Дакументы і лёсы.
17.40. Загадка СБ.
17.50, 20.30. Надвор'е.
18.00. Гадзіна пік.
◆18.25. "Дзікая ружа".
18.50. Палацавыя тайны Кабула.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Масква–Крэмль.
21.00. Лата "Мільён".
◆21.30. "Пачуй маю песню" (Вялікабрытанія).
23.30. Максіма.

**Канал "Расія"**
6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
7.00. Час дзелавых людзей.
7.30. Сам сабе рэжысёр.
8.00. Навіны Эй-бі-сі.
8.30. Паехалі.
◆8.40. "Санта-Барбара".
9.30. Тэлегазета.
9.35. Ранішні канцэрт.
9.50. Зусім сакрэтна.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Панове-таварышы.
16.20. Новая лінія.
17.05. Будні.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. У свеце аўта- і мотаспорту.
18.25. Свая гульня.
19.25. Падрабязнасці.
◆19.35. "Санта-Барбара".
20.25. Пяць хвілін аб добрым жыцці.
20.30. Шостае пачуццё.
21.05. Сола.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Экран крымінальных паведамленняў.
22.45. Балет Санкт-Пецярбурга.
23.15. Арт-абстрэл.

**Санкт-Пецярбург**
12.00, 14.30, 18.30, 21.45. Інфарм ТБ.
12.10. Чароўная лінія.
12.25. "Нямецкая хваля".
13.00. Хуткая дапамога.
13.30. "Паўлава-на Ацэ". Д/ф.
13.45. "Еўрапейскі калейдаскоп".
* 14.15. "Ранішняя песенька".
◆14.45. "Круг".
16.20. "Папялушка". Фільм-балет.
17.40. Рэформа і ўлада.
* 18.10. "Разбойнікі і музыканты".
18.55. Парады садаводам.
◆19.05. "Іван Васільевіч мяняе прафесію".
20.45. Тэлеслужба бяспекі.
20.55. О-ля-ля!
21.25. Тэлемагазін.
21.30. Па ўсёй Расіі.
22.00. Спорт, спорт, спорт...
22.10. Ваш стыль.
22.20. Вячэрні звон. Музычны канал.

**8-ы канал**
◆18.00. "Карусель".
* 18.25. "Вальтрон".
◆18.50. "Лабірынт правасуддзя".
* 19.40. Мультфільм.
20.10. Цыркавое прадстаўленне (Кітай).
20.40. "Свята ў паветры".
20.50. "Як справы, старына?"
21.20. БАНТ. Рэпартаж.
◆21.30. Дэтэктыў... Баявік...

**Канал НТВ**
* 17.00. Мультфільм.
17.30. "Энцыклапедыя цудаў, ці Вы жадалі пра гэта даведацца".
18.00, 21.00. Сёння.
18.35. "Такое спартыўнае жыццё".
◆19.25. "Кампанія вар'ятаў".
◆21.35. "Інспектар крымінальнай паліцыі".
22.30. "Часінка".
◆23.00. "Саламея".

### ■ 19, пятніца

**Беларускае тэлебачанне**
8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Эканамікст.
8.20. Пад купалам Сусвету.
8.30. Надвор'е.
8.40. Пяць хвілін на жарты.
8.50. Фільм-канцэрт.
◆9.20. "Маё каханне, мой смутак".
10.20. "Крок". "Карамболь".
10.50. Рок-айленд-шоу.
11.50. Музыка Мравінскага.
13.15. "Гімназісты". Д/ф.
◆14.05. "Кахай і вер" (Індыя).
* 16.25. "Следства вядуць Калабкі".
16.40. Міжнародныя спаборніцтвы па канкуру. 2-гі этап.
17.30. Навіны.
* 17.40. Мультфільмы.
18.00. Эканамікст.
18.10. Абласныя навіны (Магілёў).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Рэпартаж са святкавання Дня металурга ў г.Жлобіне.
20.00. Кінанарыс.
20.15. "Тэлесябрына".
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
◆21.35. "Паны авантурысты".
23.05. НІКа.
23.20. Ірына Мірашнічэнка і яе сябры.
0.20. Пад купалам Сусвету.
0.30. Надвор'е.

**Канал "Астанкіна"**
5.30. Раніца.
7.00, 10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
7.15. Працяг праграмы "Раніца".
8.00. Новы старт.
8.15. Сарока.
◆8.40. "Дзікая ружа".
* 9.05. "Кропля".
9.15. Дапамажы сабе сам.
9.45. Бізнес-клас.
◆15.25. "Пра Чырвоную Шапачку". 2-я серыя.
* 16.35. "Слон і пеначка".
16.50. Азбука ўласніка.
17.25. Чалавек і закон.
17.55, 20.35. Надвор'е.
18.00. "Тры дні і тры гады". Д/ф.
◆18.25. "Дзікая ружа".
18.50. Поле цудаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
◆20.45. "На двайны паварот" (Францыя).
22.25. Палітбюро.
23.10. Музагляд.
23.50. Аўта-шоу.
0.05. Праграма "Х".

**Канал "Расія"**
6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
7.00. Час дзелавых людзей.
7.30. Рэтра-шлягер.
8.00. Навіны Эй-бі-сі.
8.30. Паехалі.
8.40. Кліп-антракт. Н.Штурм.
◆8.45. "Санта-Барбара".
9.35. Тэлегазета.
9.40. "Таганскае танга".
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. "Глядзі на мяне, як на роўню".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія.
◆16.50. "Зноў малады". 2-я серыя.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. "У даўніну і цяпер". Д/ф.
* 18.05. "Ой, куды мы заляцелі?".
18.25. "Калі мы былі маладыя...".
19.25. Падрабязнасці.
◆19.35. "Санта-Барбара".
20.30. "Ля возера. Праз тры гады".
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
◆22.35. "Прамая трансляцыя".

**Санкт-Пецярбург**
12.00, 14.30, 18.30, 21.45. Інфарм-ТБ.
12.10. Чароўная лінія.
12.25. "Нямецкая хваля".
13.00. Хуткая дапамога.
13.30. Спатканне з Тэрпсіхорай.
◆14.45. "Іван Васільевіч мяняе прафесію".
16.20. Тэлевізійны фільм.
* 17.00. Мультфільм з субцітрамі.
* 18.10. "Лясныя казкі".
* 18.55. Мультфільм для дарослых.
◆19.05. "Кінфія".
◆20.00. "Драма ў цырульні". Кароткаметражны фільм.
20.15. "Ад першай асобы". Ю.Болдыраў.
20.45. Тэлеслужба бяспекі.
20.55. Футбол. Кубак "19 жніўня".
21.25. Тэлемагазін.
21.30. Будні.
22.00. Спорт, спорт, спорт...
22.10. Ваш стыль.
◆22.20. "Ямы" (Францыя).

**8-ы канал**
◆18.00. "Карусель".
18.25. Кубак "Поршэ". Вялікабрытанія.
* 18.35. "Вальтрон".
19.00. "Бітва пры Куладэне" з цыкла "Гістарычныя бітвы".
* 20.00. Мультфільм.
20.30. БАНТ. Рэпартаж.
20.40. Foxy music.
◆21.30. Мастацкі фільм.

**Канал НТВ**
* 17.00. Мультфільмы.
17.30. "Энцыклапедыя цудаў, ці Вы жадалі пра гэта даведацца".
18.00, 21.00. Сёння.
18.35. "Футбольны клуб".
◆19.25. "ЧП раённага маштабу".
◆21.35. "Інспектар крымінальнай паліцыі".
22.30. "Часінка".
◆23.00. "Пах драпежнікаў".

*Каб зэканоміць ваш час:*
◆ мастацкія фільмы
* мультфільмы

## НАДВОР'Е

Сёння днём па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі ў заходніх раёнах кароткачасовыя дажджы, магчыма навальніцы.

Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — +20—+22°, Мінску, Гомелі — +21—+23°, Гродна — +22—+24°, Брэсце — +23—+25°.

У наступныя двое сутак часамі дождж, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ўначы — +9—+14°, днём — +16—+21°.

**Валянціна СКРЭБЕЦ,**
**інжынер-сіноптык Белгідрамета.**


Дзяжурны рэдактар Наталля ПЛЫТКЕВІЧ
Стыльрэдактар Валянціна СКАРЫНКІНА

Заснавальнікі: ЦК СМБ, калектыў рэдакцыі газеты "Чырвоная змена".
Выдавец: газетна-выдавецкае закрытае акцыянернае таварыства "Маладняк", 220013 г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а.
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220013, г.Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
Выходзіць у аўторак, чацвер і суботу.

*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.*

Час падпісання ў друк:
па графіку – 19.20, падпісана – 19.20.

М. 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П. 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Індэкс 63129. Тыраж 45 000. Зак. 90.



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220013 г.МІНСК, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а.
ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная – 68-26-27; намеснікі галоўнага рэдактара – 32-12-82, 68-29-45; сакратарыят – 68-29-28; аддзел палітыкі – 68-25-55; аддзел эканомікі і сацыяльных праблем – 68-28-52; аддзел культуры і гістарычнай спадчыны – 68-29-56; аддзел маральна-этычнага выхавання – 68-25-93; аддзел пісьмаў і вывучэння грамадскай думкі – 68-28-32; аддзел студэнцкай і школьнай моладзі – 68-25-93; аддзел інфармацыі, аглядальнікі – 68-29-26; аддзел ілюстрацыі – 68-27-74, 68-25-41; ул. кар. па Брэсцкай вобл. – (01622) 5-57-57, ул. кар. па Віцебскай вобл. – (02132) 2-36-37.
РЭКЛАМНАЯ СЛУЖБА – тэл.68-27-21, 68-29-45. Факс: 32-21-03.



РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Сяргей БАЛЦЭВІЧ (адказны сакратар), Валянцін БАРЫСЕВІЧ, Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Віктар ЛЮКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Аляксандр САЛАМАХА (першы нам.галоўнага рэдактара), Павел СІМАНАЎ (нам.галоўнага рэдактара, дырэктар агенцтва "ЧЗ-інфарм"), Алег СЛУКА, Наталля СТРАЛКОВА, Кузьма ШАПЛЫКА, Вольга ШАЎКО, Майя ШЭНДРЫК.

*Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ*